# Тыднёвік Магілёўскі




№ 50 (114) 22-28 сьнежня 2000 г. Кошт 50 руб.


## З Калядамі, з Раством Хрыстовым!





*– Бог наведаў свой люд і вось ужо 2000 гадоў жыве сярод нас. У вігілійны вечар на Божае Нараджэньне мы традыцыйна зьбіраемся ля стала з аплаткам, які сымбалізуе дабрыню і любоў цяжкай чалавечай працы. Сустракаемся ў сям'і і касьцёле, каб дараваць усе крыўды і аднавіць сувязі, дзелячыся між сабой аплаткам. Гэтага хоча Бог, які так бязьмежна нас палюбіў, што ахвяраваў Свайго Адзінароднага Сына, каб мы маглі чэрпаць з гэтай любові сілу для ўзаемнага прабачэньня і даравання ўсім, хто нас як-кольвек пакрыўдзіў: нашым суседзям, сябрам, супрацоўнікам, знаёмым... Бо ў такой атмасфэры прабачэньня і згоды нанова нараджаецца Хрыстос, зазначаючы сваю прысутнасьць сярод нас супакоем і радасьцю ў сямейнай і кожнай іншай супольнасьці.*

***З каляднага вітаньня ксяндза Дэкана касьцёла сьвятога Станіслава Рамана Факсінскага***

*"ТМ" да касьцёльных калядных віншаваньняў дадае сваім чытачам і прыхільнікам словы ўдзячнасьці за сяброўства і пажаданьні духоўнай стойкасьці ў змаганьні за прыстойнае жыцьцё на роднай зямлі.*

ЭКСПЭРЫМЭНТЫ

## Аўстралія стане бліжэй?..

***Нягледзячы на гаротны стан сельскай гаспадаркі, беларускае кіраўніцтва знаходзіць грошы на нечаканыя экспэрымэнты ў гэтай галіне. Днямі Міністэрства сельскай гаспадаркі й харчаваньня аб'явіла, што стратная птушкагадоўля цягам наступнага году можа быць пераарыентаваная на высокапрыбытковае вырошчваньне... стравусаў.***

Досьвед суседзяў, перш за ўсё палякаў ды расейцаў, прываблівае (як быццам) пэрспэктываю неблагіх прыбыткаў. Праўда, саматужныя захады ў разьвядзеньні экзатычнай птушкі з боку асобных фэрмэраў плёну не далі: горы мытных, карантынных, адміністрацыйных папераў не давалі ходу ідэі. Але калі стравусамі зацікавіліся наверсе, непасрэдна ў Адміністрацыі, справа шпарка пайшла наперад.

Паводле словаў начальніка галоўнай управы Мінсельгасхарчу Аляксандра Аксёнава, які зьяўляецца дзяржаўным куратарам новай справы, днямі ў Польшчы набытыя "першыя ластаўкі айчыннай стравусагадоўлі" – шэсьць двухмэтровых перарасткаў. Пляны на будучы год наогул глябальныя: спадар Аксёнаў будзе хадайнічаць перад урадам, каб той выдаткаваў грошы на набыцьцё яшчэ дзьвюх сотняў своеасаблівых "замяшчальнікаў індыкоў" (як сьцьвярджаюць гурманы, менавіта на індычынае мяса падобна прыгатаванае стравусінае).

Але аптымізм чыноўнікаў падзяляюць ня ўсе. Прафэсар Іван Нікітчанка, які апошнія дзесяцігодзьдзі стала займаецца аналізам сельскай гаспадаркі, ня верыць, што калёнія свойскіх стравусаў выратуе Беларусь. Хутчэй гэта здолее зрабіць айчынная інкубатарная курыца...

Кошт аднаго малога стравусяняці вагаецца ў межах $150. Яшчэ дзьвесьце мяркуемых абыйдуцца ў $30.000. Гэта без уліку дастаўкі, аплаты карантыну, выдаткаў на кармы ды адмысловыя фэрмы.

Рэалізаваць штосьці на ўнутраным рынку будзе досыць праблематычна. Міністэрскія аналітыкі націскаюць на тое, што сродкі хутка акупяцца попытам на дарагое мяса, пер'е і скуру на міжнародным рынку. Адзінае, што не ўдакладняецца, – а ці ёсьць хоць нейкі шанец трапіць на гэты самы рынак, які спрадвечна трымаецца тымі краінамі, дзе стравусы гадуюцца ў прыродных умовах.

Пакуль гэтак званыя "першыя ластаўкі" адаптуюцца недзе ў гаспадарках Гарадзеншчыны – месца не ўдакладняецца, магчыма, з-за таго, каб птушкі раней тэрміну ня трапілі ў суп да нецярплівых суайчыньнікаў.

***Ігар КАРНЕЙ***

Дз.АБАДОЎСКІ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

## 40 хвілін спатканьня... і 4 дні карцэра

***У той час, як па меркаваньні абароны, ніякага дасьледваньня ў справе Д.Абадоўскага не вядзецца (справа, нагадаем, вернутая пасьля двух судовых слуханьняў на новае сьледзтва), працягваюцца турэмныя зьдзекі над хлопцам. Яны ўзмацніліся пасьля нядаўняга візыту да Д.Абадоўскага кіраўніка місіі АБСЭ ў Беларусі сп.Ганса-Георга Віка.***

Кіраўнік Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЭ зацікавіўся як самой справай, так і абставінамі, якія сталіся прычынай сухой галадоўкі падсуднага. Ён знайшоў час для наведаньня Д.Абадоўскага за кратамі магілёўскай сьлэцтурмы. Сустрэча адбылася 6 сьнежня і доўжылася 40 хвілінаў. Пасьля выхаду з тэрыторыі турмы сп.Вік паведаміў, што хлопец зрабіў на яго ўражаньне, якое зусім не супадае з партрэтам "мацёрага крымінальніка", які для яго папярэдне намаляваў сьледчы Іван Гарадкоў.

Яшчэ акалічнасьць. Якраз напярэдадні візыту прадстаўніка эўрапейскай структуры, што назірае за выкананьнем правоў чалавека ў нашай краіне, хлопца пераводзяць з карцэра ў чыстую камэру з тэлевізарам. Пасьля спатканьня яго вяртаюць у карцэр для адбыцьця тых чатырох дзён, якія ён не адседзеў з-за міжнароднай увагі да прычынаў галадоўкі, што пагражае самому жыцьцю чалавека.

Па ўсяму зразумела, лічыць бацька і афіцыйны абаронца падсуднага Сяргей Абадоўскі, што ўлады ўжываюць супраць хлопца рэпрэсіі з мэтаю зьнішчыць яго фізычна – кіруючыся сваёй нізкай і злоснай помстай. Помсьцяць жа за тое, што сьледчыя ня здолелі даказаць злачынства й што Д.Абадоўскі адмовіўся прызнаваць тое, чаго не рабіў. І яшчэ яны помсьцяць за тую рашучасьць, якую дэманструе Сяргей Абадоўскі ў абароне сына і ў сваёй разнастайнай грамадзкай дзейнасьці, што даўно выклікае незадаволенасьць улады.

...Некалькі дзён з-за сваёй адсутнасьці ў горадзе бацька ня бачыўся з сынам. На гэтым тыдні спатканьне адбылося. Угаварыць сына ў нечым скарыцца перад адміністрацыяй турмы і ўсёй карнай сыстэмай, каб захаваць сабе жыцьцё, бацька ня здолеў. Галадоўка працягваецца.

Супрацьстаяньне сыстэмы з закратаваным чалавекам, віна якога не даказаная, яшчэ ня скончылася...

***Паводле прэс-рэлізу магілёўскага Праваабарончага Цэнтру***

***P.S. Рэдакцыя мае ліст з-за кратаў ад Д.Абадоўскага, у якім хлопец сам тлумачыць свае апошнія паводзіны. Спадзеючыся на тое, што Д.Абадоўскі паслухае бацьку і спыніць галадоўку, мы не друкавалі гэты ліст раней, каб не распальваць жарсьці і не даваць яголным турэмшчыкам новай падставы для помсты зьняволенаму... Цяпер лічым, у сувязі з апошнімі абставінамі ў справе, што далей хаваць ад грамадзтва ліст закратніка ня мае сэнсу: хлопец настроены рашуча і сам прымае свае рашэньні. Якія і чаму – варта пра гэта ведаць і разумець...***

## Да ўсіх, хто мяне падтрымоўвае

Шаноўныя сябры!

Я вельмі ўдзячны Вам за падтрымку і ўдзел у маім лёсе. Канешне, жыцьцё чалавеку дадзенае Богам адзін раз. Аднак ня бачу іншага спосабу змаганьня за справядлівасьць і годнасьць маёй сям'і ва ўмовах поўнага бясправ'я, калі тыя, хто кінуў мяне за краты, ня маюць мужнасьці прызнаць свае памылкі.

Не магу дазволіць сабе смаладушнічаць перад сыстэмай хлусьні й гвалту, якая ўсталявалася ў нас у Беларусі.

Я вырашыў не перапыняць галадоўку, пакуль гэтая сыстэма, якая абавязаная выконваць законы, парушае іх. Заяўляю, што ніякія карцэры, зьнявагі й нягоды ня зломяць мяне.

Яшчэ раз дзякую за падтрымку.

**З павагаю, Дзьмітры Абадоўскі,**
**вязень установы УЖ15/ст-4 г.Магілёву.**
**23.11.2000г.**

ПРАВААБАРОНЧЫ БЮЛЕТЭНЬ

# Абарані Сябе Сам

*Гэты выпуск праваабарончага Бюлетэню магілёўскага аддзяленьня Беларускага Хельсінскага Камітэта і магілёўскага Праваабарончага Цэнтру – апошні ў бягучым годзе. З папярэдніх чатырох чытачы змаглі даведацца і, спадзяемся, засвоіць некаторыя асноўныя правілы ўзаемаадносінаў чалавека з нашымі карнымі дзяржаўнымі ўстановамі, а таксама з працэдурамі афармленьня адпаведных дакумэнтаў. На жаль, нашая дзяржава дае штодзённыя падставы для дзеяньняў у абарону самых розных правоў чалавека ў самых розных галінах ягонага існаваньня. Аднак нават у такой сытуацыі чалавек можа перамагчы, калі ён своечасова зьвернецца да праваабаронцаў, калі ён сам ведае свае правы і ўмее пра іх заявіць, калі ён не баіцца ісьці да канца ў змаганьні за гонар і праўду... Праваабарончая кроніка-2000 сьведчыць пра тое.*



## Разам пераможам!

З апошніх перамогаў МПЦ нельга не адзначыць узбуджэньня крымінальнай справы супраць міліцыянтаў, што сталіся "героямі" публікацыі "Неоконченная пьеса для милиции и диктофона". Чытачы памятаюць, што спачатку пракуратура адмовілася расьсьледваць факты незаконных (і проста па-чалавечы прыкрых) паводзінаў апэратыўных супрацоўнікаў Кастрычніцкага райаддзелу міліцыі Богіна і Васільева, што дамагаліся падчас допыту Д.Афанасенкі й трох ягоных сябраў з дапамогаю маральнага ціску і запалохваньня дабіцца "патрэбных паказаньняў". Праваабаронцы не згадзіліся, як тое прапанoўвала пракуратура, лічыць такія паводзіны міліцыянтаў ўсяго толькі дысцыплінарным учынкам. Днямі прыйшло паведамленьне аб тым, што супраць вінаватых міліцыянтаў узбуджаная крымінальная справа. МПЦ намераны прасачыць за тым, каб справа дайшла да суда.

Цяпер пад наглядам МПЦ знаходзіцца некалькі грамадзянскіх і крымінальных справаў, што разглядаюцца ў судах. Штодзень у МПЦ зьвяртаюцца па некалькі чалавек па прававую кансультацыю. Прадстаўнікі Цэнтру выязджаюць на месцы для пасярэдніцтва паміж тымі, хто мае патрэбу ў абароне сваіх правоў і "сілавымі" ведамствамі. Эфэктыўным быў нядаўні выезд праваабаронцаў у Асіповічы, дзе мясцовыя міліцыянты, у прыватнасьці, Цітоў і Грабін (пад наглядам пракурора Бабакова!) зрабілі сапраўдны напад на адну з кропак грамадзкай актыўнасьці ў раёне. Пракурор і міліцыя вымушаныя былі прызнаць неправамоцнымі свае паводзіны й цяпер выпраўляюць становішча. Аднак праваабаронцы і ў гэтым выпадку не зьбіраюцца задаволіцца фармальнымі тлумачэньнямі прычынаў здарэньня і фармальным жа прызнаньнем пракуратуры і міліцыі сваіх "памылак".

*... Год заканчваецца. Барацьба за правы чалавека працягваецца, бо яна ня можа скончыцца ніколі. Яна, гэтая барацьба, у нашай краіне толькі пачынаецца. Ня будзем, сябры, палохацца і здавацца. Памятайма, што разам мы – сіла!*

*Каардынатар Бюлетэню – Сяргей АБАДОЎСКІ*
*Дакумэнтальнае забесьпячэньне – С.АБАДОЎСКІ, У.КРАЎЧАНКА, А.АЛЕКСАНДРОВІЧ*
*Рэдактар – Аляксандар АЛЕКСАНДРОВІЧ*

ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

## ...зь Бялынычаў



***Амаль тры месяцы чакаюць бялынычане й вяскоўцы, якія сёлета здалі на мясцовы крухмальны завод собскую бульбу, разьліку за яе.***

Дырэкцыя завода змагла адшукаць толькі каля 25 мільёнаў рублёў, а патрэбныя яшчэ 36 мільёнаў. Грошай на банкаўскім рахунку прадпрыемства няма, бо яголныя партнэры, у асноўным калгасы і саўгасы раёна, завінаваціліся амаль 28 мільёнаў. І перад усім доўг той, як кажуць у такіх выпадках – пераходны – пачаў складацца яшчэ два гады таму.

Вось толькі здатчыкі патрабуюць свае грошы, тым больш, што інфляцыя за мінулыя тры месяцы з'ела тыя сумы адсоткаў на 10-15. Атрымліваецца, што бульбачку сваю яны здавалі на завод не па 35-40 рублёў за kg, а фактычна значна дзешавей. Дырэкцыя завода паабяцала ўзяць банкаўскі крэдыт, што зусім нявыгадна прадпрыемству, і завезла паўсотню тонаў цукру – каб разьлічыцца. Усё гэта, магчыма, прывядзе да таго, што прыватнікі ў наступным годзе ня стануць здаваць сваю бульбу на завод (а сёлета ўвосень яны здалі 708 тонаў!). Лепей пасеюць збожжа...

*Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ*

## ...з Горак

***Каля 200 спэцназаўцаў высадзіліся 13 сьнежня пасьля абеду ў горадзе. Іхны прыезд зьвязваюць з уцёкамі двух асуджаных з зоны строгага рэжыму.***

Плячыстыя хлопцы ў плямістым аддзеньні з сабакамі і зброяй, якія ходзяць па вуліцах, агорнутых цемрай, наводзяць на жыхароў жаху ня меньш, чым злачынцы-уцекачы.



***Тэатру-студыі "Парадокс" БДСГА стукнула 10 год.***

Дзівосны калаж гумару, каханьня і прыгажосьці падаравалі маладыя акторы студэнцкага тэатру тым, хто прыйшоў на іхнае сьвята 14 сьнежня. Віват, "Парадокс"! Доўгія лета!

*Дзьве цёткі НАДЗІ*



## Пратэсту для перамогі недастаткова

***Паводле вынікаў апошняга сацыялягічнага апытаньня НІСЭПД, 41,5% беларускіх грамадзянаў не жадае, каб А.Лукашэнка кіраваў краінаю яшчэ адзін тэрмін. Жадае гэтага крыху больш як траціна беларусаў – 36,1%, а сярод прадстаўнікоў эліты – увогуле толькі 3,8%.***

Агульнанацыянальнае сацыялягічнае апытаньне, праведзенае ў лістападзе Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледваньняў, паказала, што тады за Лукашэнку прагаласавала б каля 38% апытаных.

Зрабілі сваю справу шумная прапагандысцкая кампанія пра падвышэньне сярэднямесячнага заробку да 100 даляраў ды гучныя разборкі з "вэртыкальлю". Адначасова працягваецца рост колькасьці незадаволеных тым, як Лукашэнка кіруе краінаю, – да 36% апытаных.

Такім чынам, на сёньня грамадзтва аказалася падзеленым на дзьве прыблізна роўныя групы. Пры гэтым, цьвёрдых прыхільнікаў А.Лукашэнкі (якія гатовыя і галасаваць за яго, і давяраюць, і лічаць ідэалам палітыка) значна менш, чым ягоных пасьлядоўных праціўнікаў – 18,5% супраць 32,5%.

Відавочна, што беларускае грамадзтва чакае новага лідэра. Вось што распавёў намесьнік дырэктара Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў Аляксандар Сасноў: "Перад прэзыдэнцкімі выбарамі А.Лукашэнка адчуў сваю залежнасьць ад "вэртыкалі". Гэта стварае перадумовы для пошуку кампрамісу паміж апазыцыяй і часткаю намэнклятуры, якая незадаволеная сваім становішчам. Аднак відавочная тэндэнцыя зьніжэньня гатоўнасьці падтрымліваць існуючую ўладу для гэтых людзей не азначае аўтаматычнай падтрымкі альтэрнатывы. Неабходная ўмова для гэтага – прадастаўленьне грамадзтву такой альтэрнатывы – папулярнага і ўплывовага канкурэнта".

Між тым назіраецца цікавая тэндэнцыя: хоць больш як 36% апытаных хацелі б бачыць на пасадзе прэзыдэнта іншага, чым Лукашэнку, палітыка, 44,5% мяркуе, што будзе абраны ён. Гэта сьведчыць пра тое, што грамадзтва ня верыць у магчымасьць правядзеньня свабодных і справядлівых выбараў. Дапускаюць сёньня такую магчымасьць толькі 32% апытаных грамадзянаў краіны.

Як паказала апытаньне, рэальную канкурэнцыю Лукашэнку на выбарах можа стварыць толькі незалежны кандыдат, бо партыйныя дзеячы дастатковае падтрымкі ў грамадзтве ў цэлым і сярод эліты ня маюць.

Такім чынам, надзвычай важная выснова палягае ў тым, што для перамогі над Лукашэнкам ягоным праціўнікам трэба ня толькі рашуча аб'яднацца, пакінуўшы ў баку свае амбіцыі, але й выйсьці за межы ўласна палітычнай апазыцыі ды стварыць Грамадзянскую кааліцыю, у якой былі б прадстаўленыя ўсе структуры грамадзянскай супольнасьці. Пратэстны электарат складае ўжо ля паловы ўсіх выбаршчыкаў, і ён гатовы выказваць свой пратэст пераважна праз выбары.

*Валер КАЛІНОЎСКІ*

## Прывітаньне з Эстоніі

*По электроннай пошце на адрас аднаго з нашых сталых аўтараў Алеся Асіпцова прыйшло паведамленьне з Эстоніі, якім ён адразу падзяліўся з "Тыднёвікам". Мы палічылі, што навіна цікавая і нават натхняючая для нашага грамадзтва. Вось яна.*



Днямі ў Таліне ўтвораная Асацыяцыя беларусаў Эстоніі, у якую ўвайшлі больш за 10 суполак з сталіцы, Нарвы, Кохтла-Ярвы і Пярну. Ейная мэта – аб'яднаньне беларусаў, якія жывуць у Эстоніі з мэтай аднаўленьня па-за дзяржаўных адносінаў з дэмакратычнымі няўрадавымі арганізацыямі Беларусі на карысьць адстойваньня дэмакратычнага разьвіцьця Бацькаўшчыны, вывучэньня мовы, інфармаваньня эстонцаў аб падзеях у Беларусі, спрыяньня разьвіцьцю эканамічных, культуровых і гуманітарных стасункаў паміж грамадзкімі арганізацыямі нашых краінаў і непасрэдна грамадзянамі.

У гэтым жа лісьце названыя магчымыя першыя магілёўскія партнэры эстонскай Асацыяцыі беларусаў, да якіх праяўлена цікавасьць з "таго боку": ГА "Кола Сяброў", магілёўскі Праваабарончы Цэнтар, газэта "Тыднёвік Магілёўскі".

## Пакуль прэтэндуюць трое

***Напрыканцы мінулага тыдня Каардынацыйная Рада дэмакратычных сілаў агучыла тры прозьвішчы патэнцыйных кандыдатаў на пасаду прэзыдэнта ад аб'яднанай апазыцыі. Гэта Сямён Домаш, Міхал Чыгір і кіраўнік Фэдэрацыі прафсаюзаў Уладзімер Ганчарык.***

Прадстаўнікі БНФ, а таксама некаторых рэгіянальных кааліцыяў высунулі кандыдатуру былога кіраўніка Гарадзеншчыны Сямёна Домаша, бо менавіта ён набраў найбольшую колькасьць галасоў у часе папярэдняга абмеркаваньня сярод актывістаў гэтых арганізацыяў. Прадстаўнікі Аб'яднанай Грамадзянскай партыі выказаліся за Сямёна Домаша й Міхала Чыгіра. І ўрэшце кіраўнікі партыяў Працы й жанчынаў "Надзея", а таксама лідэр БСДГ Станіслаў Шушкевіч паведамілі, што падтрымліваюць лідэра Фэдэрацыі прафсаюзаў Уладзімера Ганчарыка.

КРДС была задаволеная тым, што патэнцыйных кандыдатаў усяго толькі тры. Яна лічыць, што шляхам перамоваў можна дасягнуць кампрамісу й дамовіцца, каб аб'яднаную апазыцыю на прэзыдэнцкіх выбарах прадстаўляў толькі адзін кандыдат.

*Паводле інф. агенцыяў*

## Расклад сьвяточных набажэнстваў у Архікатэдры Сьвятога Станіслава



24 сьнежня

**22.00** – Урачыстая Сьвятая Імша па-беларуску пад кіраўніцтвам Яго Эмінэнцыі Ксяндза Кардынала Казімера Сьвёнтэка, галавы Каталіцкага Касьцёла на Беларусі.

Бярэ ўдзел хор гарадзкога цэнтру культуры "Спадчына".

25 сьнежня

**9.00** – Сьвятая Імша па-польску

**10.00** – Канцэрт хору музычнай вучэльні

**11.00** – Сьвятая Імша па-беларуску з удзелам хору Архікатэдры

**12.30** – Сьвятая Імша для дзяцей па-беларуску. Спэктакаль "На Каляды"

**16.30** – Канцэрт хору гарадзкой капэлы (мастацкі кіраўнік Сяргей Лішчанка)

**18.00** – Сьвятая Імша для моладзі па-беларуску. Маладзевы калядны спэктакаль.

26 сьнежня

**9.00** – Сьвятая Імша па-польску

**18.00** – Сьвятая Імша па-беларуску

МУЗЫЧНАЯ ГАСЬЦЁЎНЯ "ТМ"

## Срэбны звон цымбалаў

***У г.Маладэчна напрыканцы лістапада прайшоў 2-гі Рэспубліканскі фэстываль цымбалістаў, які сабраў усіх лепшых маладых выканаўцаў краіны. Зразумела, што прыстойную па колькасьці і, галоўнае, якасьці дэлегацыю юных талентаў даслаў на сьвята самага народнага інструмэнту наш Магілёў. Цяжар фінансавага забесьпячэньня яе ўдзелу ў фэстывалі падзялілі ўпраўленьне культуры і ГА "Кола сяброў".***

Тры дні працягваліся конкурсныя выступленьні юных музыкаў у перапоўненай залі мясцовай музычнай вучэльні. Усе мы хваляваліся за нашых. Прыемна было пачуць на падвядзеньні вынікаў фэстывалю ад прафэсара Я.Гладкова – старшыні журы, што магілёўская цымбальная школа ўмацавала свае творчыя пазыцыі. Амаль усе нашыя выканаўцы былі адзначаныя тым ці іншым чынам, атрымалі прызы, не гаворачы пра шчодрыя і шчырыя апладысмэнты гледачоў. Асаблівага гонару – выступіць на заключным канцэрце – былі ўдастоеныя магілёўцы Алена Варанцова (музычная школа №2), Ганна Фралова (музычная вучэльня), Насьця Касапапава (Мсьціслаўская музычная школа).

...Срэбны звон цымбалаў наступным годам ізноў ажывіць фэстывальным акордам музычнае жыцьцё Беларусі. Ізноў магілёўскія юныя таленты пакораць гледачоў і журы.

*Натальля ЛУКАШЭВІЧ*

## Гэтае жудаснае маўчаньне...

***Напрыканцы лістапада ў Беластоку гастраляваў Гарадзенскі лялечны тэатар, у якім цяпер працуе наш нядаўні зямляк Алег Жугжда. У тамтэйшай беларускай газэце "Ніва" надрукаваная ўзьнёслая рэцэнзія на жугждаўскі спэктакаль "Трагедыя пра Макбэт" ды інтэрвію з пастаноўшчыкам.***

Алег Жугжда адзначыў, што беластоцкая прэм'ера спэктаклю была ўсяго 15-й па ліку, хаця праца была зробленая даўно, а задуманая ажно дваццаць гадоў таму. Аднак ўсё адкладалася, бо Алегу пастаянна думалася, што п'еса занадта "вострая". Але ж у сьвеце нічога не мяняецца – усё тыя ж мэтады аваloданьня і ўтрыманьня ўлады. Актуальныя беларускія падзеі апошніх гадоў падштурхнулі творчую рашучасьць рэжысэра. Алег прызнаўся, што ведаў пра тое, што з пастаноўшчыкамі гэтай п'есы, як правіла, нешта нядобрае адбывалася. Гэта ў ягоным выпадку спраўдзілася ў тым, што давялося ўрэшце разам з сям'ёю выбірацца з Магілёву...

– "Макбэт" выдатна раскрывае сутнасьць людзей, – гаворыць Алег, – дазваляе разабрацца ў жыцьцёвых абставінах. Адметна, што ў нашай краіне наглядаецца пэўная спэцыфіка ўспрыманьня спэктаклю. Тут, у Польшчы, спэктакаль выглядае больш жывейшым, глядач ідзе на кантакт з акторамі і дзействам. У нас жа, у Беларусі, спэктакаль суправаджае звычайна жудаснае маўчаньне...

*Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК пытаньняў культуры*

## Тры месяцы чакаў хлопец арышту

***Ёсьць такое паняцьце – падвойны стандарт, што асабліва небясьпечна ў палітыцы і маралі. Менавіта на гэтым паняцьці грунтуюцца многія дзеяньні нашых уладаў у дачыненьні, у прыватнасьці, да некаторых грамадзкіх і палітычных арганізацыяў.***

Пра гэта сьведчыць тое, што з аднаго боку ўлада як быццам дазваляе існаваньне недзяржаўных ініцыятываў і арганізацыяў, а з другога – ускладняе ім жыцьцё да такой ступені, што часта лягчэй увогуле не заяўляць пра сябе адкрыта, чым прайсьці тое, што ўлада называе "рэгістрацыяй". У большасьці цывілізаваных краінаў існуе прынцып заяўляльнай рэгістрацыі, калі дастаткова паведаміць адпаведным дзяржаўным інстанцыям: вось ён, я – і працуй. У нашай жа гэтая працэдура каштуе грошай, нэрваў, часу, непрыемнасьцяў і невядомага наперад выніку.

З пачатку гэтага года ідзе чарговая перарэгістрацыя грамадзкіх арганізацыяў. Існаваць тым, хто не зарэгістраваны, забаронена пад пагрозай нават крымінальнай адказнасьці. Сродкам масавай інфармацыі нават забаранілі ўзгадваць пра такія арганізацыі.

Трэба – дык трэба, як гаворыцца. Але адное на паперы й зусім іншае на справе. Прыкладам, больш трох месяцаў валтузіцца гарадзкая арганізацыя БНФ "Адраджэньне". Толькі пасьля гэтага тэрміну ***(а не празь месяц, як патрабуе закон)*** ёй адказалі з гарвыканкаму, што ў пададзеных для пастаноўкі на ўлік дакумэнтах не хапае нейкай паперчыны, і наогул ёсьць прэтэнзіі да Статуту, хаця такія заўвагі ёсьць ***(зноў жа адпаведна закону)*** прэрагатывай Міноста. Рэгістрацыйны лёс Кастрычніцкай арганізацыі БНФ наогул вырашаў пракурор (!), а не райвыканкам.

А гарадзкому аддзяленьню Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў адмаўляюць у пастаноўцы на ўлік з жніўня па той прычыне, што арганізацыя зарэгістраваная па адрасу прыватнай кватэры. Зноў жа ***закон гэта дазваляе,*** а вось чыноўнік гарвыканкаму – не...

Чаму ж з такой лёгкасьцю і беспакарана парушаюць на месцах закон, трактуючы яго па-свойму і як захочацца?.. Ды таму, што насамрэч таго й трэба самой нашай Уладзе. Закон яна выдае для міжнароднай ацэнкі, а свае правілы ўстанаўлівае для ўнутранага ўжываньня. Для нашай улады ёсьць арганізацыі "свае" – таму ў іх няма клопатаў. А ёсьць арганізацыі "варожыя" (сюды падпадаюць усе дэмакратычныя) – жыцьцё якіх ёсьць своеасаблівым хадажэньнем па лязу брытвы. Па маіх назіраньнях, у вобласьці дзейнічае больш за 200 грамадзкіх арганізацыяў, а "афіцыйна" існуюць зь іх ці ня пятая толькі частка. Улада, на жаль, зусім ня думае пра тое, якую карысьць прыносяць грамадзкія ініцыятывы краіне і людзям. Яна лічыць, што толькі ёй вядомая праўда жыцьця й толькі яна сама ведае, што, чаго, колькі і каму трэба. Актыўнасьць людзей, іхная самастойнасьць, ініцыятыўнасьць толькі палохае ўладу, што найлепшым чынам сьведчыць пра яе недэмакратычнасьць і аўтарытарнасьць. Адсюль і стараньне, асабліва БТ, "запудрыць мазгі" народу наконт дрэнных дэмакратаў, якія толькі і мараць пра шкоду сваёй краіне...

Прапаганда, як ня дзіўна, дае свае страшэнныя вынікі. Неяк сустрэў я аднаклясьніка, зь якім даўно ня бачыліся. Тоё-сёе, і пачуў ён, што я ёсьць сябрам БНФ. Бачылі б вы выгляд ягонага твару! Праз колькі часу я даведаўся, што хлопец усур'ёз баяўся, што яго арыштуюць за такое небясьпечнае знаёмства...

*Сяргей САКОЛЬСКІ*

МОЙ РАДАВОД: **Блізкая гісторыя**

## Лёс сям'і ў XX стагодзьдзі

### Конкурс для школьнікаў

Грамадзкае аб'яднаньне "Дыярыуш" пры ўдзеле Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Таварыства Беларускай школы і Згуртаваньня Беларускай Шляхты абвяшчае конкурс "Мой радавод: Лёс сям'і ў XX стагодзьдзі".

У конкурсе могуць браць удзел вучні сярэдніх навучальных установаў (пачынаючы з 7-й клясы): ліцэяў, гімназіяў, а таксама навучэнцы каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў.

Форма конкурснай працы адвольная: сачыненьне, эсэ, інтэрвію, калаж з фотаздымкаў, фільм ды інш. Калі праца нятэкставая (аўдыё-, відэа-, фотаздымкі) – да яе павінна быць далучаная пісьмовая частка, якая адлюстоўвае працэс дасьледваньня альбо заключае камэнтар да крыніцаў.

Працу пажадана пісаць на беларускай мове, яе можна выконваць індывідуальна альбо групай, самастойна альбо з дапамогай куратара.

Да працы абавязкова павінна быць далучаная анкета ўдзельніка з прозьвішчам, імём аўтара, яго каардынатамі і назвай працы, а таксама з прозьвішчам, імём і каардынатамі кіраўніка (пры ягонай наяўнасьці).

Працу трэба дасылаць у адным асобніку да 1 траўня 2001 году (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) на адрас: "Блізкая гісторыя", а/с 128, 220064, Менск.

Вынікі конкурсу будуць абвешчаныя 8 ліпеня 2001 году.

Усю патрэбную інфармацыю, парады і брашуру, у якой падрабязна выкладзеныя ўмовы конкурсу, можна атрымаць ад сакратара конкурсу Ірыны Коваль па тэлефоне: (8-017) 227-51-09, ці па паштовым адрасе, што пазначаны вышэй.

Жадаем посьпехаў!



Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта. Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.

Штотыднёвік



АДРАС РЭДАКЦЫІ:

212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.

E-mail: krug@user.unibel.by

Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

... Магілёў, Першамайская 70. Замова 50. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 21.12.2000 г. а 17.05.